Тэатральная Бібліатэка № 3

МІХАСЬ МАШАРА

# ЧОРТ З ПАДПЕЧЧА

## Сцэны з селянскага жыцьця



ВІЛЬНЯ 1936

МІХАСЬ МАШАРА

# ЧОРТ З ПАДПЕЧЧА

## Сцэны з селянскага жыцьця



ВІЛЬНЯ 1935 ГОД.

## АСОБЫ:

МАРЦІН — селянін, 35 гад., любіць выпіць.

МАР'ЯНА — яго жонка, 30 гадоў.

ЗМІТРУК — заможны селянін, удавец, 35 г.

БЕЗРАБОЧЧЫ (тып вясковага валацугі-бадзякі, падшываючыйся пад аблічча безрабоччага)

**Рэч адбываецца ў нашыя дні.**

Вясковая хата. Правы бок займае вялікая сялянская печ з вялізным, высокім падпеччам у разрэзе; так, што глядзельнікам усё відаць што дзеецца падпеччу. У левым баку вакно. Пасярод, — дзьверы. На сцэне стол, пара табурэтаў. У левым кутку ложак.

## ЗЬЯВА I

Мар'яна адна.

Мар'на (зьвязваючы торбу). Эх, каб хутчэй ён выладзіўся! Зьбіраецца, як мокрае гарыць. То еду, то ня еду. Душу ён з мяне матае, гэты завалень. А мо' ён штось даведаўся адносна мяне з Зьмітруком? Не, не павінна.. Усё здаецца робім шыта-крыта. Ды і рэч дзеецца ня ў вёсцы. На хутары няма каму плётак насіць.

## ЗЬЯВА 2.

Мар'яна і Марцін.

Марцін — (уходзючы ў хату) Ну, як там, торба гатова?

Мар'яна — Даўно, Марцінка... Каўбасу і кусок сала палажыла.

Марцін — А хлеба?

Мар'яна — А як-жа, і хлеба добрую лусту. Сяледчык, там сабе купі. Кабылку запрог ужо?

Марцін — Запрагчы, то запрог, ды ехаць надта ня хочыцца; нездароў'е гэта; жывот рэжыць.

Мар'яна — Ты, Марцінка, солі рассалі, ды выпій, гэта памагае ад жывата.

Марцін — Кажаш, памагае?

Мар'яна — Вельмі памагае.

Марцін — Дык рассалі.

Мар'яна — Зараз, зараз, саколік (бярэ кубак і соліць ваду).

Марцін — А ліха яе ведае, што тут рабіць, і не здароў, і сон кепскі бачыў... Мо' лепш ня ехаць?

Мар'яна — Марцінка ты мой! Куды ноч, туды і сон.

Марцін—Табе абы хутчэй мяне выпхнуць.

Мар'яна — Што ты, што ты, саколік? (на бок) Мо' і дагадываецца штось? (да яго) Дзеля мяне ты сабе і зусім ня едзь. Ліха яго бяры, таго кірмашу. Толькі вось соль і нафта выйшла, ды і сам чуць ня боса ходзіш. Мне нічога ня трэба. Дзеля мяне ня едзь зусім.

Марцін — Ды я ведаю, што трэба. Але-ж дарога далёкая, вёрст 20 будзе, ды нездароў я з гэтым жыватом.

Мар'яна — Як уважаеш, саколік, але вось мо' і парасё якое надарылася-б купіць, ды і мыла ні кавалачка няма.

Марцін — Дык давай кубак!

Мар'яна — На, саколік.

Марцін — (п'е) Але-ж і салёна, як атрута якая!

Мар'яна — Нічога, саколік, благое благім і знаць.

Марцін — Дык што ж? давай рукавіцы ці што?

Мар'яна — Зараз, зараз, саколік (шукае ў пячурцы).

Марцін — Ой-ой-ё-ё! Вось ізноў зарэзала.

Мар'яна — Нічога, нічога, Марцінка, гэта соль хваробу борыць. Вось пабачыш, хутка перасгане зусім.

Марцін — Быццам крыху лягчэй. Мо' й твая праўда. Давай рукавіцы!

Мар'яна — (падаючы) На, на, саколік, вось і торба і пуга. Толькі глядзі не пазьніся.

Марцін — Як тут ня спозьнішся? Які во час ужо. А пакуль заедзеш, ды прыедзеш, дай Божа да поўначы вярнуцца. Карове-ж дай і кабыле прынясі на нач.

Мар'яна — Зраблю, усё зраблю, саколік.

Марцін — Ну, дык паеду... Ой-ёё! Вось ізноў, як нешта жывое ў жываце павярнулася.

Мар'яна — Гэта соль хваробу верне. Цяпер перастане.

Марцін — Ды неяк крыху адпусьціла. Ну, папхнуся.

Мар'яна — З Богам, саколік.

Марцін — (у дзьвярах) Хаты-ж аднэй не пакідай. Паляціш куды, на сяло, а тут прыцягнецца хто, ды сьцягне штось.

Мар'яна — Што ты, што ты, саколік? Ды куды мне ісьці?

Марцін — (выходзючы) Глядзі тут заўсім, а я папхнуся.

## ЗЬЯВА 3

Мар'яна адна.

Мар'яна — Ледзь выпхнула! (гледзячы ў вакно) Здаецца папхнуўся. Вось чурбан! Аж напалохаў; думала, што зусім не паедзе, раздумаецца. А я ўчора ўжо Зьмітруку наказала, каб прыйшоў. Але пэўна і ён хутка надыйдзе. Тым-

часам трэба зьбегаць кароўку падаіць. Ды яму саколіку, сьвежага малачка прынесьці (бярэ даёнку і выходзіць. Нейкі час сцэна пустая).

## ЗЬЯВА 4

Безрабоччы.

Безрабоччы — (уходзючы) Добры дзень, добрыя людзі! Мо' штось далі-б безрабоччаму? Вось ужо трэці год працы ня маю. Хаджу ад хаты да хаты, як жабрак які. Ох, цяжкая долечка! (крыху памаўчаўшы і азіраючыся) Што гэта? Ды неяк тут нікагусенькі няма?.. Вось праява!.. Дзе-ж гаспадары падзеліся?.. Гм!.. Штось надта смачна пахне... Пакаштаваць-бы... але страшнавата. Лепш штось зьлямзіць, на пару злотых, ды хадала, пакуль нікога няма (убачыўшы кішаньковы гадзіньнік на сьцяне) Добрая рэч... Каму ня трэба 5 залатовак? (азіраецца па хаце) Здаецца, нікога ня відаць? Э, ды што там усяго баяцца (зьнімае гадзіньнік і кладзе ў кішэнь) Хадзі сюды! А цяпер давай Бог ногі, пакуль нікога няма (ідзе да дзьвярэй. За дзьвярыма чуваць чыесь шагі) Ідзе хтось! Прапаў! Далібог прапаў! Што рабіць? Дзе падзецца? (бегае па хаце, шукаючы схову) Ану, нырну пад печ. Мо' як-небудзь выбяруся.

## ЗЬЯВА 5

Зьмітрук.

Зьмітрук — (уходзючы) Добры дзень! Штось нікога няма? Марцін-жа паехаў. Сам бачыў. А дзе-ж Мар'яна? Дзе-ж яна падзелася? Сама ўчора наказала каб прыйшоў. Ну, пачакаем крыху (зірнуўшы ў вакно) А!.. кароўку даіла... ідзе!

## ЗЬЯВА 6

Зьмітрук — Мар‘яна.

Мар‘яна — (уходзючы, радасна) А, прышоў, саколік мой!

Зьмітрук — А то як-жа? Сама запрасіла і з хаты ўцякла.

Мар‘яна — Не ўцякала, любы, не ўцякала. Кароўку даіла (ставіць даёнку).

Зьмітрук — (падыходзячы да яе) Ну, давай, прывітаемся! Як здаровейка, мая зорачка? (абнімае і цалуе).

Мар‘яна — Кахаеш яшчэ? А я думала, мо‘ ня прыйдзеш? Мо‘ раскахаў ужо?

Зьмітрук — Як-жа цябе не кахаць, такую красачку. Ягадка ты мая! Маліначка чырвоненькая! (зноў цалуе).

Мар‘яна — Ох, ты саколік мой ясны! за адны слоўкі твае ласкавыя, кахаць — не разкахаць цябе, красаўца майго чарнавокага (цалуе яго).

Зьмітрук — Ну, што? Марцін паехаў?

Мар‘яна — Паехаў, мой ты даражэнькі, і да поўначы ня вернецца. Увесь дзянёк наш!

Зьмітрук — І ночкі кусок добы! А я, бачыш, ледзь не спаткаўся з ім. Іду я гэтта каля Дударовага гумна, аж бачу, басуе Марцін на кабыле. Я зьвярнуў за ток, ды і пачакаў. Праехаў ён гэтта, а я да рэчкі, ды кусьцікамі, кусьцікамі аж да вашага хутарка.

Мар‘яна — Ніхто ня бачыў?

Зьмітрук — Хто пабачыць? Мне гэтта не ў першыню. Усе таёмныя сьцежачкі знаю да цябе, мая зорачка.

Мар‘яна — Глядзі, Зьмітручок, каб, бара-

ні Бог, хто ня ўбачыў! А то ўвядуць у вушы гэтаму чурбану і будзе бяда.

Зьмітрук — Што ты, зорачка! — Ніхто і не падумае.

Мар'яна — Я і так ужо думала сёньня, што мой знае пра нас. Бо так не хацелася яму ехаць на кірмаш. Ледзь выпхнула.. і жывот яму рэзаў, і ўсё ліха на яго напала.

Зьмітрук — Вось, каб ён прапаў!

Мар'яна — Што ты, саколік!

Зьмітрук — Што — шкадуеш? Вось тваё і каханьне.

Мар'яна — Дзе там шкадую, але што-ж са мной было-б?

Зьмітрук — Ах, ты мая дурненькая! Як было-б? А вось — я ўдавец, ты ўдава—і была-б галава.

Мар'яна — Жартуеш ты, саколік, а прыдзіся, дык і рукі адтрос-бы. Ты—чалавек багаты.

Зьмітрук — Багаты? Ды ты даражэй усяго.

Мар'яна — Кажы, кажы. Але што-ж мы стаім? Я ад радасьці і розум згубіла. Сядай, Зьмітрук.

Зьмітрук — Нічога, нічога, пастаю.

Мар'яна — (бярэцца цадзіць малако) А я вось, малачко працаджу, ды сурадойчыку табе налію.

Зьмітрук — Ты мне сурадойчыку, а я табе вось што прынёс (выймае з кішані бутэльку гарэлкі і стаўляе на стол).

Мар'яна — Ах, ты саколік мой! Вось пагуляем!

Зьмітрук — Ды ўжо-ж вып'ем за маю красуню.

Мар'яна — (працадзіла малако і наліваючы яму кубак) Ну, а пакуль што, выпі сурадойчыку. Ты-ж любіш яго.

Зьмітрук — (бярэ кубак і п'е) А і смачнае малачко тваей кароўкі.

Мар'яна — Можа яшчэ кубачак?

Зьмітрук — Досыць, зорачка, досыць.

Мар'яна — Ты пачакай, Зьмітручок, а я закуску прышыкую (дастае з шафкі: мяса, каўбасу, масла і акраец хлеба).

Зьмітрук — Ды ты, як ведала, жто я з бутэлькай прыйду, і закуску прыстроіла.

Мар'яна — Ведала — ня ведала, а пачаставаць цябе, мой любы, заўсёды рада (засьцілае стол і ставіць закуску).

Зьмітрук — Ну, гульнём, мая маліначка, (бярэ і хоча адчыніць бутэльку. На панадворку чуваць голас Марціна: —

— Трррп, праклятая!)

Мар'яна — (спалохаўшыся) Ох — Езус Што гэта? (зірнуўшы ў вакно). Марцін вярнуўся Чула маё сэрца бяду.

Зьмітрук — (спалохаўшыся) Дзе-ж мне падзецца? Ён-жа заб'е мяне гад!

Мар'яна — (зашчэплівае на крук дзьверы) Не палохайся, даражэнькі, лезь пад ложак!

Зьмітрук — Знойдзе пад ложкам, знойдзе, гад! Я ўжо лепш пад печ (лезе пад печ. Падпеччу хапае яго безрабоччы).

Марцін (за дзьвярамі) — Адчыні, Мар'яна! Што ты днём зашчапілася?

Адначасна сцэна пад-печчу.

Зьмітрук — Ах - ей! Хто тут?

Безрабоччы — Чорт. Маўчы, а то за-

душу! і сядзі ціха, ні гу-гу, аж пакуль я цябе не паклічу з падпечча (Зьмітрук забіваецца ў самы кут падпечча і сядзіць ціха).

На хаце.

Мар'яна — (хаваючы гарэлку і закуску) А хто там? Не адчыню. Я адна: Марціна дома няма — на кірмаш паехаў.

Марцін (за дзьвярамі) — Дык гэта-ж я — Марцін. Адчыні!

Мар'яна — А чаму ў цябе голас не Марцінаў?

Марцін — Ты ж глянь у вакно: і кабыла наша. Адчыні!

Мар'яна — Кабыла мо' і наша, але ты не Марцін і ня стукайся — не пушчу. Крычаць буду!

Марцін — Вось, здурэла баба са страху. Ну, глянь праз вакно, ці-ж не пазнаеш мяне?

Мар'яна — (усё ўжо прыбраўшы) Ну ідзі пад вакно; пабачу, пабачу. (Марцін ідзе пад вакно, Мар'яна з хаты глядзіць на яго).

Марцін — (пад вакном) Ну што, пазнаеш? Вось дурная. Перапалохалася, нават днём свайго дзеда баіцца.

Мар'яна — Дык гэта запраўды ты, Марцінка? Як-жа ты мяне напалохаў! Ну ідзі, ідзі адчыню.

## ЗЬЯВА 7.

Мар'яна — Марцін.

Марцін — Што з табой сталася, баба?

Мар'яна — А мой-жа ты родненькі, а кабі жа ты ведаў, як ты мяне напалохаў! Ох-хо-хо Я думала, гэта зладзеі якія ломяцца ў хату, а тут і цябе няма,- адна. Ну — думаю — канец мой прышоў.

Марцін — Вось дурная баба, які я злодзей, калі я сам і кабыла наша?

Мар'яна — Цябе-ж я ня бачыла, а голас нейкі зусім ня твой.

Марцін — (разглядаючыся) Гэта мусіць затым, што жывот мне рэжыць, дык і голас зьмяніўся.

Мар'яна — Усё баліць?.. і соль не памагла?

Марцін — Нічога не памагла. Ад'ехаў я гэтта ўжо з пару добрых вёрст, а ён як зарэжа, як зарэжа. Ну, думаю, канец твой, Марцін! Недарма табе і сон кепскі сьніўся.

Мар'яна — Табе і сон кепскі сьніўся?

Марцін — Ды я-ж табе казаў аб гэтым.

Мар'яна — І трэба-ж было табе ехаць. Толькі мяне напалохаў. Нядарам я так цябе не пушчала на гэты кірмаш. Чула маё сэрца. Але ці ты — паслухаеш?

Марцін — Ой! ой-ё-ё! ізноў хапіў (хапаецца за жывот і сядае на лаўцы за сталом).

Мар'яна — (на бок) Што рабіць? (да Марціна) А саколік ты мой, распраніся-ж ты!

Марцін — (распранаецца, Мар'яна памагае яму) Дай ты там чаго выпіць. Мо' гарачага чаго маеш? А то палыну завары.

Мар'яна — Пачакай, Марцінка, пачакай! Маю я табе лякарства.

Марцін — Ой! Ня вытрымаю! (ізноў сядае на лаўцы).

Мар'яна — Пацярпі, дзядок, пацярпі! (ідзе да шафкі і вынімае бутэльку і, ідучы да Марціна) На! Лякарства сабе трымала. Цэлы год схаванае стаяла, але, як гэтак хапіў цябе жывот,— на, выпі, Марцінка, выпі!

Марцін — О, золатца маё! Дай, Мар'яна, дай!

Мар'яна — (дастаючы з шафкі закуску і чарку) На, Марцінка, на! Вось і закускі крыху асталося, што табе на кірмаш строіла. (стаўляе на стале).

Марцін — (бярэ бутэльку і налівае чарку) А мая-ж ты родная, выратавала ты мяне! Ну, за тваё здароўе! (п'е).

Мар'яна — Пі на здароўе!

Марцін — (выпіўшы, налівае другую) Ну, цяпер ты, Мар'яна, хлюбні. У мяне так і пакацілася па жываце клубочкам.

Мар'яна — Другую, Марцінка, другую! Лягчэй будзе.

Марцін — Мо' і твая праўда. За тваё здароўе!

Мар'яна — На здароўе, дзядок!

Марцін — Адразу лягчэй стала.

Мар,яна — Я-ж табе казала, што паможа.

Марцін — Ну, Мар'яначка, цяпер ты.

Мар'яна — Ня трэба! Я-ж здаровая.

Марцін — І слухаць не хачу.

Мар'яна — Хіба трошку (крыху адпівае і стаўляе чарку на стол).

Марцін — (далівае чарку) А за гэта — вось табе кара.

Мар'яна — Ня трэба, ня трэба, што ты, Марцінка! Уп'юся ятчэ.

Марцін — Уп'ешся? Нічагусенькі, у сваей хаце і са сваім цзедам. Пій, пій, Мар,яна, усё роўна не дарую.

Мар'яна — Не, Марцінка, не магу. Я лепш сабе на каранькі налію (нясе чарку да падпрыпячку і робячы від, што вылівае ў бутэльку,

закрывае сабой падпечча і ціха:) На, Зьмітручок, выпій і ты (замест Зьмітрука чарку пераймае безрабоччы, выпівае і парожнюю вяртае Мар'яне. Мар'яна вяртаецца да стала і налівае зноў Марціну ).

Марцін — Выдумала яшчэ там каранік нейкія.

Мар'яна — Знадобіцца, знадобіцца, Марцінка. Мо, ізноў калі жывот зарэжыць. Ну выпі, выпі яшчэ, Марцінка.

Марцін — Ну, хіба яшчэ адну (выпіўшы, закусывае).

Мар'яна — (налівае другую) Ну, яшчэ адну, дзядок, ды і закусі разам.

Марцін — Не, не, Мар'янка, гэта твая, ты, ты выпі, Мар'янка.

Мар'яна — Як-жа мая? Я і здароўя ня чула. Ты выпі, Марцінка, паздаравееш хутчэй.

Марцін — Ну, хіба дзеля жывата яшчэ (п'е). Але цяпер ты, не дарую ўжо (налівае).

Мар'яна — Не, Марцінка, ня йдзе яна мне сягоньня. Ані ня йдзе, аж у грудзях ад яе баліць. Я лепш ізноў яе на караські, ды заўтра нашчаком хлюбну.

Марцін — (ахмялеўшы) Ну лій, лій сабе куды хочаш. Твая чарка, куды хочаш туды і дзявай яе.

Мар'яна — (зноў нясе чарку да прыпячку і дае пад печ, дзе зноў яе выпівае безрабоччы ).

Марцін — (ахмялеўшы пяе) Га-ла-ва ты ма-я-а-а га-ло-ва-чка, га-ло-ва-чка уда-ле-нька-я-а!

Мар'яна — (вяртаючыся да стала) Ого, як вясёла! Аж запяяў ад лякарства. Пэўна жывот ня рэжыць?

Адначасна з гэтым, падпеччу:

Безрабоччы — Ох, запяю і я! Ня вытрываю.

Зьмітрук — Што ты, родненькі, не губі мяне.

Безрабоччы — Вось, як цябе прыпякло, аж да чорта ў радню лезеш. А ці ты чуў, каб чорт каго пашкадаваў?

Зьмітрук — Зьмілуйся, не губі ты мяне!

Безрабоччы — А што дасі? А то зараз выпхну цябе на хату!

Зьмітрук — Што хочаш бяры, толькі не губі!

Безрабоччы — Давай тваю вопратку і шапку. Дык мо, і душыць цябе ня буду, і ад Марціна ўратую.

Зьмітрук — А як-жа я застануся?

Безрабоччы — Бялізну маеш?

Зьмітрук — Як-жа ў бялізьне да дому?

Безрабоччы — Не дасі? (хапае яго за карак) Тут табе і канец будзе! Праз Мікіту аж у пекле апынесься.

Зьмітрук — (просячы) Бяры, бяры, усё бяры! (зьнімае вопратку).

Безрабоччы — І нагавіцы!

Зьмітрук — (пакорна зьнімае і нагавіцы) На, усё на! Толькі пашкадуй, не губі.

Безрабоччы — Зноў лезь у кут і ні гугу! Пакуль не паклічу з падпечча, ціха сядзі, калі ня хочаш прапасьці (безрабоччы перапранаецца ў Зьмітрукову вопратку і шапку. Зьмітруковы нагавіцы, сваю вопратку і шапку зьвязывае ў вузялок. Зьмітрук нерухома сядзіць у куце.

На хаце:

Марцін — Памагло, памагло, мая ты сакатушка! Цяпер ведаю, што мяне шкадуеш. Напалохалася, што я захварэў? Так? Прызнайся!

Мар'яна — А як-жа, Марцінка, і цяпер сэрца як дурное скачыць.

Марцін — Ха-ха-ха! Няхай яно ня скачыць.

Мар'яна — Як-жа яму не скакаць, калі так напалохалася?

Марцін — Хай яно не палохаецца,

Мар'яна — Як-жа яму не палохацца, калі табе жывот баліць.

Марцін — Дык ведай-жа, мая ты сакатушка, што ён мне і не пачынаў балець.

Мар'яна — Не пачынаў балець? А чаму-ж ты вярнуўся з дарогі?

Марцін — Ха-ха-ха! Дай яшчэ чарачку, дык усё раскажу.

Мар'яна — (наліваючы яму чарку) Выпі, выпі, Марцінка. Але як-жа гэта? Знача ты мне зманіў?

Марцін — (выпіўшы) Смачная прынада, толькі ў галаве закруцілася ўсё. Слаб я стаў, Мар'яна. Не магу шмат выпіць, вось выпіў крыху і ап'янеў.

Мар'яна — Але-ж ты раскажы, што з жыватом тваім сталася.

Марцін — Гэта сакрэтная рэч...

Мар'яна — Во як, Марцінка? Дык у цябе ад мяне сакрэты завяліся?

Марцін — Гэты сакрэт аб табе, Мар'янка

Мар'яна — Што аба мне?

Марцін — А вось, зьверыць захацеў... Цябе зьверыць, Мар'янка!

Мар'яна — Як-жа мяне зьверыць?

Марцін — Праўду хацеў даведацца, праўду аб табе.

Мар'яна — Якую праўду?

Марцін — Ды што людзкія языкі мелюць.

Мар'яна — Нічагусенькі не разумею. Якія языкі? Што мелюць?

Марцін — Вось ты напі яшчэ чарачку, а я і раскажу.

Мар'яна — (налівае) Ну, выпі яшчэ, але-ж кажы, што за праўда.

Марцін — (п'е) Скажу, скажу, Мар'янка.

Мар'яна — Ды хутчэй-жа кажы!

Марцін — А дасі яшчэ чарачку?

Мар'яна — Не, Марцінка, перш скажы.

Марцін — Ну слухай, мая ты сарока! Пра цябе гэта праўда, пра цябе і Зьмітрука ўдаўца.

Мар'яна — Што-ж такое?

Марцін — Вось спаткала надовень мяне Альжбета Дударова і кажа — Ты нічагусенькі ня ведаеш, а да тваей Мар'яны Зьмітрук ходзіць. Як толькі ты за парог, дык яна за пірог.

Мар'яна — На мяне? Гэтак і сказала?

Марцін — Гэтак і сказала...

Мар'яна — Вось прынада аблезлая!

Марцін — Дык вось я і паехаў. Еду гэтта я, аж бачу бяжыць і Зьмітрук. Бег, бег, ды і завярнуў на Дудароў хутар.

Мар'яна — Вось прынада! Да самой ходзіць, а на мяне паклёп кладзе. Каб ей пуста было.

Марцін — Аб гэтым-жа, аб гэтым, Мар', янка. Але я ўсё-ж не паверыў. Хоць сам бачыў, як ён бег на Дудароў хутар, але не паверыў Даехаў да Верцялішак, ды й вярнуўся. Давай, думаю, сваімі вачыма зьверу. А мо' ён і да цябе пабег.

Мар'яна — Дык вось як ты мне верыш,

Марцінка, а я так напалохалася! Я лечыць яго кінулася, а ён толькі кпіць сабе.

Марцін — Ведаю, ведаю, цяпер усю-ўсю праўду ведаю. Як спаткаю Альжбету — у вочы плюну. Дай, Мар'янка, яшчэ чарачку.

Мар'яна — (наліваючы). Ня варта было-б і паўчарачкі за твае пастулкі.

Марцін — Ня гне-вайся ма-я ты лад-ненькая (п'е). А цяпер я лягу адпачыць крыху... Драмота ломіць... Падпіў крыху... Падпіў. У сваей хаце. Са свэей бабай... Пагуляў, пагуляў і... праўду дазнаў (апушчае галаву ў драмоце на стол).

Мар'яна — Што ты, Марцінка, ці-ж ложка няма? (памагае яму перайсьці на ложак. Марцін адхінуўся на ложак і дрэмлючы ціха пяе: „Га-ла-ва ты ма-я...“ Мар'яна, прыбіраючы са стала:) Здаецца, заснуў? Ну, і нахлюбалася страху... Чуць, чуць ня было бяды...

Бачыш яго, на хітрыкі пусьціўся. Вось заваленьі Мяне перахітрыць захацеў — чурбан альховы! Не, яшчэ гэтага ня было каб дзед бабу абхітрыў, калі яна любіць другога. Ну, а цяпер трэба Зьмітручка выпусьціць, ён недзе як на вугальлі сядзіць. (Падходзіць да Марціна і, быццам папраўляючы падушку, паварачывае яго галаву да сьцяны. Марцін сьпіць.) Во, альховік, глядзі на сьцяну. (Ідзе да падпечча і ціха:) Зьмітручок, вылазь і ўцякай! А я на ўсялякі выпадак закрыю Марціна. (Зноў ідзе да Марціна і нагінаецца над ім. З падпечча хутка вылазіць безрабоччы, апрануты у Зьмітрукову вопратку і шапку. Бяжыць да дзьвярэй і выходзіць. Мар'яна зірнула на яго плечы; адходзіць ад Марціна пэўная, што Зьмітрук выйшаў. Мар'яна, прыбіраючы тое-сёе па хаце:)

— Ну, здаецца ўсё добрым кончылася. Бедны Зьмітручок, вось напалохаўся! Гэтым разам няўдача, што-ж зрабіць. (Бярэ нейкі кусок палатна і садзіцца шыць. Нейкі час сядзіць ціха. Потым пяе):

А ў гародзе яліначка,
За гародам сосна.
Хоць я пяю-весялюся,
Майму сэрцу тошна.

Ох, выйду я за вароты
Ды рассыплю дулі.
Ды пара ўжо мне кідаці
Дзявоцкія гульні.

Ох, выйду я за вароты —
Рассыплю гарэхі.
Ды пара ж мне пакідаці
Дзявоцкія сьмехі.

Ох, выйду я за вароты
Ды рассыплю карты.
Ды пара мне пакідаці
Дзявоцкія жарты.

— Так, так Мар'янка, даўно час спакінуць дзявоцкія жарты. А ты ўсё не кідаеш. Чаго добрага, давядуць яны цябе да бяды.

Толькі з дурным сэрцам усьцяж рады няма. Спадабаўся яму чарнавокі Зьмітрук і годзі! Хоць ратунку крычы. (Памаўчаўшы) Але-ж і Альжбета! Во, гадаўка, як спрыяе мне! А ў вочы, якая добрая! Вось прынада аблезлая! Ну, пачакай-жа, родненькая! Я ўжо адплачу табе, як належа быць. Ты заварыла мне кашу, — чуць разхлябала, але разхлябала. А як я табе завару, — язычок свой зламаеш! Пачакай толькі крыху — палічымся!..

(Хтось стукае ў дзьверы.) А хто-ж там яшчэ? Каго там нялёгкае нясе? Што рабіць?!.. Давай, разбуджу Марціна. (Ідзе да ложка і будзіць Марціна) Марцінка, Марцінка! Прачніся, нехта ў дзьверы стукае.

Марцін — (з прасонку) Га?.. Што кажаш?

Мар'яна — (тузаючы яго). Уставай, уставай, Марцінка, хтось ідзе да нас. Чуеш, во ў дзьверы стукаецца.

Марцін — Стукаецца? Хто стукаецца? Куды стукаецца?

Мар'яна — Ня ведаю хто... Во, чуеш сам?

Марцін — (паднімаючыся) Стукаецца?

Мар'яна — Ці-ж ты ня чуеш?

Марцін — Ідзі, Мар'янка, адчыні?

Мар'яна — Дык ты-ж уставай, а то я баюся адна.

Марцін — (Седзючы на ложку, скрабе галаву і праціраець вочы) А бадай яе ліха, гэтак смачна спаў! Трэба-ж разбудзіць было.

Мар'яна — Ты-ж сам, Марцінка, чуеш,— во ізноў стукаецца!

Марцін — Ну, дык чаго стаіш? Ідзі, адчыні!

Мар'яна — (адпічэплівае дзьверы). Каго-ж тут бог нясе?

## ЗЬЯВА 8

Тыя-ж і Безработчы.

Безработчы — (уваходзючы; ён ізноў перапрануўся ў сваю вопратку, шапку. Мар'яна яго не пазнала). — Добры дзень, добрыя людзі!

Марцін (седзючы на ложку) — Добры дзень! Сам-жа хто будзеш?

Безрабоччы — Безрабоччы, панок.

Марцін — Безрабоччы?

Безрабоччы — Але, панок! Вось ужо трэці год, як працы ня маю. Цягаюся ад хаты да хаты, як жабрак які. Ох, цяжкая долячка!

Марцін — Дык што-ж ты бярэш?

Безрабоччы — Што ласка, панок.

Марцін — Збожжа бярэш?

Безрабоччы —Куды-ж мне дзяваць яго?

Марцін — Дык што-ж я табе дам?

Безрабоччы—Кусочак сала, грошы крыху, або паесьці дайце, добрыя людзі, а я за гэта паваражу вам, добрыя людзі.

Мар'яна — Марцінка, няхай паварожыць.

Марцін — Што ён там вываражыць? Адна хлусьня гэта ваша варажба.

Безрабоччы — А пабачыш, панок, тады і скажаш, што за хлусьня мая варажба.

Мар'яна — Марцінка, хай паварожыць Ну, калі ты ня хочаш, дык няхай мне.

Марцін — Ну, варажы сабе. Толькі паесьці дай чаго-нібудзь чалавеку.

Мар'яна — Зараз. (Да безрабоччага) Сядайце да столу. (Дастае з печы міску з капустай)

Марцін — Ну, што чуваць на сьвеце?

Безрабоччы — Кепска чуваць, панок.

Марцін — Што-ж там такога кепскага?

Безрабоччы — Пэўна вайна будзе.

Марцін — Вайна, кажаш?

Мар'яна — (стаўляючы перад безрабоччым міску і акраец хлеба). Выбачце на лепшае, толькі гэта і маем.

Безрабоччы — Дзякую і за гэта (бярэцца есьці).

Марцін — Дык, кажаш, вайна чуваць?

Безрабоччы — Вайна... а мо' й зусім канец сьвету.

Марцін — Во як?

Безрабоччы — Так, так... Кажуць людзі і прыкметы такія ёсьць. А вось слухайце.— Ў аднэй вёсцы баба такую пачвару прывяла: галава чалавечая, ногі казьліныя, а хвост сабачы.

Марцін і Мар'яна — Сабачы?

Безрабоччы — Але, сабачы, і як нарадзіўся, дык так і запяяў пятухом.

Марцін і Мар'яна — Пятухом?!

Безрабоччы — Так і запяяў пятухом, а потым сабакай забрахаў.

Марцін і Мар'яна — Сабакай...

Марцін — Што-ж ён, жыве?

Безрабоччы — Не, дзе там жыве.

Марцін — Памёр?

Безрабоччы — І не памёр.

Мар'яна — Дык што-ж з ім стялася? Забілі мо'?

Безрабоччы — Хацелі забіць, ды нельга. Білі, білі, а ён усё жыве. Яго б'юць, а ён сьмяецца, гад. Ды яшчэ і кажа: — канец ваш прыйшоў!

Мар'яна — Так і казаў?

Безрабоччы — Так і казаў. Тады адсеклі яму галаву. Дык галава адна рагочыць, а тулаво без галавы бегае.

Марцін — Ма быць, абарацень нейкі.

Мар'яна — А мо' ўпыр?

Марцін — Ну, а што далей было?

Безрабоччы — А вось зьвязалі яго, усе з хаты ўцяклі, вокны і дзьверы дошкамі забілі, а хату запалілі з усіх бакоў.

Мар'яна — Дык згарэў ён?

Безрабоччы — Дзе там згарэў. Хата за-

гарэлася, як кудзеля; і толькі страха шуснула а ён як выляціць на чырвоных крыльлях! І галава ізноў прырасла, ды як пачне кружыцца над полымем! Кружыўся, кружыўся, потым захахатаў і паляцеў, як зьмей, да лесу, а над лесам іскрыстай маланкай рассыпаўся і зьнік..

Мар'яна — Ах, божачка-ж ты мой! Я-ж казала, што гэта ўпыр!

Марцін — Абарацень, Мар'янка!

Мар'яна—Упыр, Марцінка, я ужо ведаю; во, над лесам рассыпаўся і зьнік.

Безрабоччы — (кончыўшы есьці) Дзякую, добрыя людзі, за хлеб, за соль!

Мар'яна — На здароўе! Выбачце на лепшае.

Безрабоччы — Дзякую і за гэта.

Марцін — Дай там яму кусок сала; няхай паварожыць. Відаць чалавек сьвятовы; мо' і знае штось?

Безрабоччы — Дзякую, панок! А за гэта вось я ня толькі паваражу, а і чарта з вашае хаты выганю.

Марцін — (зьдзіўлена) Чарта з хаты?!

Мар'яна — У нас чорт у хаце?!

Безрабоччы — Але, але добрыя людзі, хутка самі пабачыце.

Мар'яна — А родненькі! Ты мусіць палохаеш нас?

Безрабоччы — Зусім не палохаю; кажу вам — самі пабачыце.

Мар'яна — І мы пабачым?!

Безрабоччы — Сваімі вачамі.

Марцін — Дык я ўжо табе і пары каўбас не пашкадую, і залатоўку дам.

Безрабоччы — Дзякую, дзякую, панок!

А я ўжэ так яго выганю, што ён і не пакажыцца ў вашу хату больш.

Мар'яна — А дзе-ж ён сядзіць у нашай хаце?

Марцін — Пэўна ў коміне, гад, бо часамі там нехта стогне.

Мар'яна — Не, Марцінка, пэўна на гарэ, бо часам там хтось бегае.

Безрабоччы — А вось і не згадалі.

Марцін — Дык дзе-ж яму, гаду, быць?

Безрабоччы — Падпеччу, падпеччу, мае дарагія.

Мар'яна — Падпеччу, кажаш?

Безрабоччы — Тяк, так, падпеччу.

Мар'яна — Во хто маіх курак душыў; а ты, Марцінка, казаў, што шашок.; — вось табе які шашок!

Марцін — А чым-жа ты яго, гада, пагоніш? Мо' свянцонай вады прынясьці?

Безрабоччы — Ня трэба.

Марцін — Дык чым-жа ты яго рушыш?

Мар'яна—Мо' сьвечку грамнічную запаліць?

Безрабоччы — І сьвечкі ня трэба. (Да Мар'яны) Ёсьць у вас кацёл вару?

Мар'яна — Ёсьць, родненькі, ёсьць; як ня быць?

Марцін — Што ты яго—варам? Як клапоў?

Безрабоччы—А вось хутка самі пабачыце. (Мар'яна дастае з печы кацялочак вады) Шкада — вару малавата. Ну, цяпер схінецеся на бок. (Марцін і Мар'яна станавяцца ў кут ля вакна) А я з ім паваюю! (бярэ памяло, жагнае яго і штось шэпча).

Марцін — І крыж кладзе!

Мар'яна — І штось шэпча!

Безрабоччы — (мочыць памяло ў ваду, потым суе ў горан у сажу і, паражагнаўшы яшчэ раз, таўчэ памялом пад печ) Вылазь, кажу табе, гад! Вылазь! Вылазь! Досыць ты тут насядзеўся ды курачак наеўся! Вылазь!.. (усьцяж таўчэ. Зьмітрок, ня вытрымаўшы, лезе праз ногі безрабоччаму на хату; ён увесь да непазнаньня перамазаны сажай).

Марцін (напалоханы)—Воймёца і сына!!

Мар‘яна (таксама),—А, Езус! (млее і валіцца на падлогу. Зьмітрук ускочыўшы з далоўку, бегае нейкі час па хаце. Потым б‘ецца ў дзьверы і зьнікае. Марцін пры кожным зблiжэньнi да яго Зьмітрука ад страху жагнаецца і туліцца да сьцяны).

Безрабоччы — (уздагонку б‘юны яго па карку) Во табе, гад! Во! Во! Во! Больш сюды ўжо не пакажышся!

Заслона

Таболы, 7.II,35.

Кніжкі таго-ж аўтора:

„Малюнкі“—Зборнік вершаў. Выд. Л. Войцікавай Бач. 16. Вільня 1928. Цана 0,30.

„На сонечны бераг!“ Зборнік вершаў. Выд. Ст. Глякоўскага і Я. Найдзюка. Вільня, 1934 г. Бач. 82. Цана 1,00.

„Вось тут і зразумей!“ Драм. абразок у 2 адслонах. Выд. Т.Б.А. Вільня, 1934. Бач. 19 Цана 0,30.

„Сьмерць Кастуся Каліноўскага .Поэма. Выд. Ст. Глякоўскага і Я. Найдзюка. Вільня, 1934. Бач. 19. Цана 0.25.

„Вясельле“. Паэма. Выд. Т.Б.А. Вільня, 1934. Бач. 29. Цана 0,25.

„На прадвесьні“. Зборнік вершаў. Выд. Я. Найдзюка і Ст. Глякоўскага. Вільня, 1935. Б. 96 Ц. 1,00.